


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

20 верасня 2002 года

№ 38 (387)
Выходзіць па пятніцах




## Навіны рэгіёна

### Расіяне вінаватыя за Вілейку

**ВІЛЕЙКА**. На прэсавай канферэнцыі, якую наладзіў прэзідэнт Лукашэнка 17 верасня ў Мінскім Палацы рэспублікі, ён спыніўся на ўзаемаадносінах Беларусі і Расіі, разважаючы над пытаннем: "Хто каму вінаваты?"

У прыватнасці Аляксандр Лукашэнка сказаў: "На нашай тэрыторыі (гэтыя аб'екты ні для каго ўжо не сакрэт) размешчаная Вілейская радыёлакацыйная станцыя, якая забяспечвае сувязь ядзерных падводных лодак Расійскай Федэрацыі з камандаваннем Расійскай Федэрацыі. За гэта нам Расія плаціць нуль".

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Лазовыя карункі

**ВІЛЕЙКА**. Заўтра на плошчы Леніна каля 11-і гадзін пройдзе другое абласное свята-конкурс па лазапляценню "Лазовыя карункі". Сюды з'едуцца 32 удзельнікі з дванаццаці раёнаў Мінскай вобласці. З нашага рэгіёна будуць маладзечанец і мядзяльчанін, тры валожынцы і тры віляйчаніны.

Конкурсныя работы майстры і ўмельцы выканаюць на вачах гледачоў. Пасля 14 гадзін журы падвядзе вынікі. Журы з 4-х чалавек узначальвае старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці доктар мастацтвазнаўства **Яўген Сахута**.

**Ірына РАБУШКА.**

### Дапамога ад шэфаў

**ВАЛОЖЫН**. Работнікі Валожынскага доследнага лясгаса зашклілі і ўставілі ўсе дзесяць аконных блокаў у дзіцячым садзе №4.

Адрамантавалі гульнявыя пляцоўкі, што на вуліцы. Сума дапамогі складае два мільёны рублёў. Лясгас ужо дзесяць гадоў з'яўляецца добраахвотным шэфам.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Фальшывыя долары ў Мядзеле

**МЯДЗЕЛ**. Даўнавата ў горадзе не сустракалася падробленых долараў ЗША.

На мінулым тыдні жыхар раёна прынёс ў абменны пункт «Беларусбанка» здаваць 100–доларавую купюру, якая аказалася фальшывай.

Мядзельчанін патлумачыў, што набыў яе каля года таму ў Мінску.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Камп'ютэр для клуба

**АСТРАВЕЦ**. На мінулым тыдні грамадскае аб'яднанне "Саюз палякаў на Беларусі" перадало камп'ютэр для клуба польскай моладзі, які ўжо амаль год дзейнічае пры дзіцяча-юнацкім цэнтры.

Кіраўнік клуба **Марына Тарарук** зазначыла, што неабходнасць у камп'ютэры ўзнікла даўно, бо ў планах клуба, акрамя правядзення розных мерапрыемстваў, ёсць і выпуск сваёй газеты.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Да юбілею рыхтуюцца загадзя

**СМАРГОНЬ**. У аўторак сюды прыязджаў старшыня Гродзенскага аблвыканкома Уладзімір Саўчанка.

Ён аб'ехаў горад, паглядзеў аб'екты, якія здадзены ў мінулым годзе і запланаваны будавацца ў гэтым. Пабываў у сярэдняй школе №7, паліклініцы, што ў Каранях, агледзеў вуліцы і галоўную плошчу.

У прыездзе старшыні зацікаўлены мясцовыя ўлады: у наступным годзе райцэнтр адзначыць сваё 500-годдзе. Грашовая дапамога вобласці да месца.

**Ірына РАБУШКА**

## Надвор'е на выхадныя

Субота, 21 верасня

**Мінск**
2°С (уначы)
12°С (удзень)



**Вільня**
3°С (уначы)
13°С (удзень)



Нядзеля, 22 верасня

**Мінск**
2°С (уначы)
13°С (удзень)



**Вільня**
3°С (уначы)
13°С (удзень)



# Беларускі калгас падымаюць украінцы

**МАЛАДЗЕЧНА. У вёску Граніч, што ў калгасе "Бацькаўшчына", у гэтым годзе прыехалі трактарысты з Украіны.**

Што прымусіла іх прыехаць з Тальнаўскага раёна Чаркаскай вобласці ў раён Маладзечанскі, каб працаваць у калгасе? Першае пытанне, якое прыходзіць у галаву.

Адзін з украінцаў – Вадзім Гарабец – у час майго прыезду ў Граніч расказаў, што ўжо тры разы за гэты год ездзіў дадому. Там у яго сям'я, дзеці, ім трэба дапамагаць. Чым? Зробленымі тут грашыма.

Вадзіма ў калгас "Бацькаўшчына" ў лютым запрасілі знаёмыя. Сказалі, што можна падзарабіць. Ён прыехаў тады адзін, выбару іншага не было – у яго калгасе грошай не бачыў з 1994 года. За працу ў канцы кожнага года давалі збожжа. Жылі тым, што маглі вырасціць у сваёй уласнай гаспадарцы. Знайсці новае месца работы ў горадзе (17 кіламетраў ад вёскі) ён не спрабаваў. Папрацаваўшы месяц у нас, зразумеў, што тут хоць якія грошы, але выплачваюць. Пасля з ім пачалі ездзіць два землякі.

У пустым будынку ў вёсцы яны зрабілі прыдатны для жылля пакой. У пачатку кастрычніка збіраюцца дамоў. Гавораць, што тут толькі адно перашкаджае працаваць – яны сумуюць па родных.

Вадзім Гарабец, калі параўноўваў беларускую і ўкраінскую глыбінкі, сказаў, што яны аднолькавыя. Толькі ў нас грошы пакуль плацяць. І дадаў, што праз 8-10 год і гэтага таксама не будзе. А падчас апошняга прыезду дамоў даведаўся, што ў іх калгасе за працу могуць у гэтым годзе і збожжа не даць. Людзі паступова звальняюцца і едуць па іншых краінах – у Расію, Польшчу, Румынію... Чаму сам не паехаў у Расію, адказаў, што і на гэта яшчэ будзе час.



Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

**Украінскі трактарыст Васіль Сапаты, калі яго фатаграфавалі, разважаў, як падпісаць здымак: "Украінскі перадавік прыехаў падымаць калгас "Бацькаўшчына". Праўда, назву калгаса падказаў зямляк Вадзім Гарабец, які стаяў побач.**

Пакуль у Беларусі было лепш, чым дома.

За ўкраінскіх трактарыстаў трымаецца старшыня калгаса "Бацькаўшчына" **Дзмітрый Рабы**. Такія людзі не адпачываць сюды прыязджаюць. Вадзім гаворыць, што Дзмітрый Васільевіч запрашае працаваць і надалей.

Госці сказалі, што гарэлкі ў нас не п'юць, бо не хочацца. Ёсць работа, ад якой залежыць канчатковая зарплата. Дома сваіх бацькоў чакаюць сем'і. І сапраўды, не гуляць сюды прыехалі.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ЮБІЛЕІ

## Па танкаўскіх мясцінах

**МЯДЗЕЛ. 17 верасня, у 90–ю гадавіну Максіма Танка, у Мінску праходзілі традыцыйныя танкаўскія чытанні. А ў сераду група ўдзельнікаў прыехала на Мядзельшчыну.**

У яе складзе былі кіраўніцтва і супрацоўнікі дзвюх сталічных навучальных устаноў, якія носяць імя песняра, – педагагічнага універсітэта і педкаледжа, даследчыкі творчасці паэта з БДУ і Нацыянальнай акадэміі навук. Наведалі яны магілу Максіма Танка ля вёскі Навікі, яго родную хату ў Пількаўшчыне, пабывалі ў Сваткаўскай і Вузлянскай школах. А ў Мядзеле прынялі ўдзел у свяце.

Народная артыстка Беларусі, ураджэнка Мядзельшчыны Марыя Захарэвіч сказала падчас урачыстасці так:

– Вечная паэзія паэта, які можа напісаць такія параўнанні: «вокны, зашклёныя вачамі блізкіх», «хата, накрытая крыламі ластавак», «парог, высечаны з успамінаў». Што можна больш сказаць... Максім Танк будзе вечна з нашым народам – такіх людзей не забываюць.

Навукоўцы адзначалі, што наведванне танкаўскіх мясцін дазволіла больш глыбока адчуць філасофію і светапогляд песняра. А каб яны пастаянна натхняліся пількаўскімі краявідамі, педагагічнаму універсітэту у розных месцах падаравалі ажно дзве карціны з выявамі гэтых мясцін.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ БУДОЎЛІ

## Дзіцячы сад стане паліклінікай

**СМАРГОНЬ. Завяршаецца будаўніцтва другой гарадской паліклінікі. Да пачатку снежня плануецца яе здаць.**

На сённяшні дзень цалкам выкананыя работы па вонкавай аддзелцы будынка, а ўнутраныя зроблены на 90%. Засталося толькі паклаці падлогу, паставіць сантэхніку, а таксама зрабіць электрамантаж.

Будоўля распачалася ў 1992 годзе. Па плану рабілі дзіцячы сад. Але ў хуткім часе з-за недахопу фінансавання справа стала. У 1998 годзе будаўніцтва аднавілася. Але будавалі ўжо не дзіцячы сад, а паліклініку.

Новая паліклініка ўзнікла ў сувязі з ростам горада. Праблему медперсаналу вырашаць за кошт першай паліклінікі – з яе забяруць частку супрацоўнікаў. Яшчэ плануецца набраць санітарак і прыбіральшчыц.

У новай паліклініцы будуць працаваць педыятрычнае і тэрапеўтычнае аддзяленні, а таксама лабараторыя дыягностыкі. Паліклініка будзе абслугоўваць жыхароў часткі Смаргоні. Каго – вырашыцца пасля яе ўводу ў эксплуатацыю. Прыём плануецца пачаць у студзені 2003 года.

Паліклініка будуецца ў Каранях, аддаленым мікрараёне Смаргоні, да якога можна дабрацца маршрутным аўтобусам. Аўтобусы ходзяць рэдка. Таму плануецца пусціць маршрутнае таксі.

**Алег ГАРУНОВІЧ.**

 



■ ПАМЯЦЬ

# Помнік паўстанцу Фларыяну Даноўскаму

**На мінулым тыдні непадалёку ад мяжы Мядзельскага і Пастаўскага раёнаў, ля вёскі Каралінова, адкрылі помнік паўстанцу Фларыяну Даноўскаму.**

Сёлета споўнілася 100 год з дня яго смерці. Ініцыятар стварэння помніка і аўтар большасці работ – мастак, сябар творчай суполкі «Пагоня» **Алесь Цыркуноў**. Ён жыве ў вёсцы Чэхі на Мядзельшчыне. А дапамагалі яму многія людзі з нашага рэгіёна.



Фота з архіва Алеся ВЫСОЦКАГА.

Эскіз помніка Фларыяну Даноўскаму.

### Гістарычная даведка

**Фларыян Даноўскі – актыўны сябар тайнай арганізацыі «Братні звяз моладзі Літвы», што існавала ў 1846-1849 гадах. За падрыхтоўку паўстання быў арыштаваны, сасланы на 10 гадоў катаржнай працы на Нерчынскія руднікі ў Сібіры. Датэрмінова вызвалены, вярнуўся на радзіму. Пачынаецца паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага – зноў Фларыяна Даноўскага арыштоўваюць. Два гады адпакутаваў на следстве. Нягледзячы на катаванні, ні ў чым не прызнаўся і быў асуджаны на выгнанне з краю. Зноў Сібір. Пасля царскай амністыі прыехаў жыць у маёнтак мастака Альфрэда Ромера ў Каралінова. На мясцовых могілках і пахаваны ў 1902 годзе.**

### Ідэя

Пытаюся ў Алеся Цыркунова, як з'явілася ідэя зрабіць помнік.

– Нешта варухнулася ў сэрцы, як пабачыў, што магіла героя такая зарослая, занядбаная, як уся наша спадчына. Захацелася, каб людзі змаглі дакрануцца да гэтага кавалачка гісторыі. Адразу з сябрамі прыбралі магілку, тэрыторыю побач. Узнікла жаданне і помнік зрабіць. Адразу задумаўся пра сціплы, потым захацелася зрабіць штосьці больш вартае гэтай асобы. І каб гэты помнік быў сімвалам павагі да таго перыяду нашай гісторыі, тых змагароў.

### Хто дапамагаў – той верыў

Мо' хто падумаў, што ў мастака шмат лішніх грошай і ён імі проста раскідваецца? Не, апрануты сціпла. І дванаццаць кіламетраў ад Чэхаў да могілак часцей за ўсё пераадольваў на роварах. Нейк прыкінуў: за час працы над помнікам дзесяці каля дзвюх тысяч кіламетраў наездзіў.

– Алесь, людзі ніколі не гаварылі: «Дзівак, навошта ён тут працуе, лепш грошы б зарабляў?»

– У такой справе матэрыяльнае нейк па–за ўвагай застаецца. Хаця сустракаліся людзі, што меркавалі, маўляў, хітрыць нешта: задарма яму дапамагай, нават чаркі не нальле. Але хто дапамагаў – той верыў. І нямала людзей выказала сваё жаданне дапамагчы. Некаторыя з іх у нацыянальнай справе не былі заўважаныя, не грукалі ў грудзі «Я – свядомы беларус». Проста ўбачылі, што тут робіцца, і захацелі далучыцца.

### Яны не былі абыякавыя

Пра памагатых – асобная размова. Па першаму клічу прыйшлі на дапамогу бацька і сын **Вінаградавы** з Мядзела, **Юрась Фурс** з Пастаў.

Далучыліся да работы ці фінансава і іншыя людзі з блізкіх гарадоў, з навакольных вёсак (асабліва стараўся **Эдвард Даргель**), з маладзёжнага інфармацыйнага цэнтра з Мінска. Варушыў мастак і прадпрымальнікаў. Напрыклад, трэба была гранітная пліта. Паездзіў па раёну, у Паставах пабываў – дорага. У адной з фірм у Вілейцы згаварыліся накont кошту. Калі спытаў пра скідку, накіравалі да кіраўніка – **Віктара Гіля**. Расказаў яму Алесь пра помнік, публікацыі пра будаўніцтва паказаў. Пераканаў прадпрымальніка – узяў той па мінімуму. У такім разе пачалі далей гаворку весці: пра надпісы, калоны. «Ну што тут зробіш: святая справа, трэба дапамагчы», – адказаў Віктар. Такім чынам, большую частку выдаткаў узяў на сябе. Нечым падобная гісторыя з прадпрымальнікам **Аляксандрам Галяком** з Кабыльніка. Ён дапамог будматэрыяламі. А прыехаў аднаго дня да помніка, ацаніў: «Тут бы плітка прыгожа глядзелася. Прывезці?» Канешне!

### Адкрыццё помніка

Пакрысе падцягваецца мясцовы люд: ветэран з мноствам медалёў і ордэнаў, бабулькі з навакольных вёсак: падзея, як–ніяк, ды і ксёндз прыедзе. Хто з бабулек крочыць наўпрост да помніка, хто яшчэ ўкленчвае ля знаёмых магіл. Абменьваюцца думкамі: «Во, смяяліся з іх, а яны так пекна зрабілі». На роварах прыкаціла ля трох дзесяткаў вучняў Кабыльніцкай школы, на машынах – людзі з суседніх гарадоў, шмат з Мінска.

Асвячаецца помнік. А сярод іншых надпісаў на ім бачым і такі: «Людзі, памятайце сваіх волатаў духу і будзьце іх годнымі!»

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ МІНУЛАЕ

# Як жыў селянін у Азарках?

Перада мною ляжыць акт, складзены 20 жніўня 1915 года валасным старшынёй **Іванам Берняковічам**, які апісваў маёмасць асобнай гаспадаркі селяніна **Пятра Васільевіча Давідовіча**.

Азаркі-Дворышча належалі Мядзельскай воласці. Цыркуляр выдаў Віленскі губернатар 17 ліпеня 1915 года, таму валасны старшыня сумесна з сельскім старастам Новікаўскага сельскага таварыства ў прысутнасці гаспадара і сведак прыступілі да справы. Я пералічу ўсё, што мела сям'я звычайнага селяніна таго часу, якая складалася з бацькі, маці і траіх дзяцей. Дапамагалі па гаспадарцы і дзед з бабай, што жылі побач.

Але пачнём: дом драўляны (1), свіран (1), хлеў (1), гумно з малацілкай (2), пшаніцы (56 коп), аўса, ячменю, грэчкі (45 коп), сена (70 берцаў), гароху (8 вазоў), саломы (6 берцаў), бульбы (2 дзесяціны), лёну чыстага (1 пуд), коней (3), кароў (8), свіней (8), авечак (19). Таксама ўлічана бялізна, збруя, сохі і бароны, адзенне, 27 фруктовых дрэў, 9 курэй, агароджа.

Акрамя зямлі, на якой гаспадар працаваў, яму належала палова дзесяціны агароду і дзве дзесяціны страявога лесу.

Мог чалавек і адпачыць: у перапісе ўказана лазня. Збожжа ж складалася ў пунькі.

Вось амаль і ўсё, не лічачы дровы, дошкі, дамашнюю абстаноўку, сукно і воўну, падушкі і коўдры...

Гледзячы на гэты акт, мне заўсёды робіцца сумна ад сённяшняга заняпаду беларускай вёскі. Бо гэта перапіс маёмасці сярэдняга працаўніка таго часу. Няўжо мы жывём горш за нашых дзядоў?

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

Капа – 60 снапоў.

Берац – мера аб'ёму сыпучых рэчываў.

■ ВЫСТАЎКІ

# Мелодыя душы

**ВІЛЕЙКА. 13 верасня ў выставачнай зале імя Сіліванові̇ча адкрылася выстаўка фларыстыкі "Мелодыя душы" мінскага майстра Дзіны Шымук.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Фларыстка Дзіна Шымук у Вілейцы ў дзень адкрыцця выстаўкі сваіх твораў.**

Мінчанка першая ў свеце здолела стварыць з высушаных кветак, лісця і іншых прыродных матэрыялаў партрэт. Раней былі толькі пейзажы і нацюрморты.

Дзіна Шымук пачала займацца фларыстыкай у 51 год. Закончыла гістарычны факультэт БДУ, працавала навуковым супрацоўнікам у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Стала займацца фларыстыкай пасля таго, як прысніўся сон. Быццам бы трава і кветкі ўцякалі ад яе. Вырашыла захаваць іх. Так і пачала "маляваць".

На карцінах Дзіны Шымук няма ніводнай рыскі алоўкам. Усё толькі натуральнае. Ды і малявала алоўкам апошні раз майстар яшчэ тады, калі вучылася ў школе.

Першая замежная выстаўка прайшла ў 1989 годзе ў Парыжы. Творы Дзіны Шымук выстаўляліся ў Германіі, Швецыі, Нарвегіі. Карціны яе знаходзяцца ў прыватных калекцыях па ўсім свеце. Майстар стварыла каля трох тысяч вялікіх работ. І яшчэ незлічоную колькасць маленькіх. Карціны Дзіны Шымук каштуюць не менш ста долараў.

Майстар падзялілася прафесійнымі сакрэтамі нарыхтоўкі матэрыялу. Як гісторыку, давялося ёй закончыць пяць універсітэтаў марксізму-ленінізму. Лісце і кветкі яна сушыць у кнігах. І лепш атрымліваецца ў кнігах Маркса і Леніна. Вось калі спатрэбіліся.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КОНКУРСЫ

# Дзеці малююць на асфальце крэйдай

**МАЛАДЗЕЧНА. 16 верасня ў гарадскім цэнтры мастацкай творчасці прайшоў конкурс малюнкаў на асфальце.**

Удзел прынялі 23 навучэнцы з сямі школ горада. Дзяцей падзялілі на дзве ўзроставыя катэгорыі – 8-10 і 11-12 год. Усяго на творчасць конкурсантам адвялі 30 хвілін.

У малодшай узроставай катэгорыі перамагла **Надзя Шырко** з СШ №5, якая намалявала Віні-Пуха. А сярод старэйшых першай стала **Лена Гайдукевіч** з СШ №4. Яна вучыцца ў класе з мастацкім ухілам.

– Удзел у гэтым конкурсе – сапраўдны адпачынак для душы: у школе мне даводзіцца маляваць кампазіцыйна складаныя работы. Тут значна прасцей, чым фарбамі. Сёння я намалявала карову з мультфільма "Лета ў Прастаквашыне".

Арганізатары конкурсу зазначылі добрую падрыхтоўку вучняў з СШ №4 – адзін пераможца і два лаўрэаты.

**Алег ГАРУНОВІЧ.**



Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

**Маладзечанскі гарадскі цэнтр мастацкай творчасці ўзнагародзіў удзельнікаў конкурсу малюнкаў на асфальце: Надзю Шырко (СШ №5), Тамару Бялько (гімназія), Руслана Камкова (СШ №3), Лену Гайдукевіч (СШ №4), Вераніку Бакунову (СШ №2), Марыю Аляшкевіч (СШ №3), Сашу Лобача (СШ №12), Кацю Сароку (гімназія), Жэню Лінкевіч, Наташу Соніч (абедзве – СШ №8), Віку Дасюкевіч (СШ №4).**

■ СВЯТЫ

# Падарунак Агінскаму

**22 верасня ў Залессі пройдзе свята, прысвечанае 237-годдзю з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага. Пачатак а 12-й гадзіне.**

Свята наладзяць супрацоўнікі музея імя Агінскага. Яно праводзіцца дванаццаты год запар. Гледачы прыязджаюць з Віцебска, Полацка, Смаргоні. Мінулы раз свята наведаў дырэктар Маладзечанскага музычнага вучылішча **Рыгор Сарока** са сваімі выхаванцамі, якія выступілі перад гледачамі.

Усяго ў музеі імя Агінскага працуе чатыры чалавекі: дырэктар, два навуковыя супрацоўнікі і вартаўнік. Акрамя сваіх прамых абавязкаў, ім даводзіцца бяліць сцены палаца Агінскага, даглядаць за садам, касіць траву ў сядзібе. За год у музеі праводзіцца больш ста экскурсій.

Старэйшы супрацоўнік музея **Сяргей Верамейчык** адначасова ўзначальвае дзіцячую студыю "Альтанка". На свяце яе выхаванцы выканаюць песні, прысвечаныя Агінскаму. А пасля на флейтах сыграюць музычныя творы знакамітага земляка. Потым будзе наладжана выстаўка работ залескай школьніцы **Людмілы Рогач**. Яе пейзажы прысвечаны сядзібе Агінскага.

– Сродкі на правядзенне свята мы шукаем самі, – гаворыць Сяргей Верамейчык. – У сельсавета і так праблем хапае. Ёсць у гэтага свята цікавая традыцыя: кожны госць павінны падрыхтаваць падарунак Агінскаму – песню, танец альбо верш.

**Алег ГАРУНОВІЧ.**

 

■ ГАНДАЛЬ

# Два тыдні, каб выправіцца

**МАЛАДЗЕЧНА. За 9 месяцаў гэтага года гарадскія ўстановы гандлю і грамадскага харчавання павінны выйсці са страт. Гэтую задачу Мінскага аблвыканкома агучыў на пазачарговым пасяджэнні гарвыканкома першы намеснік Яфім Ідэльчык.**

Другім пытаннем стала напаўняльнасць магазінаў мясцовымі таварамі.

## Што больш баліць

Страты – галаўны боль маладзечанскага гандлю. Толькі тры прадпрыемствы з трынаццаці буйнейшых па выніках 7 месяцаў маюць прыбытак. Бюджэт горада не атрымаў з-за страт гандлёвых арганізацый 114 мільёнаў рублёў. І ліквідаваць страты ў адзін момант будзе цяжка, а для многіх – і немагчыма.

Апошні шанс выканком даў кіраўнікам "Пасажа" **Уладзіміру Верамею** і "Дзіцячага свету" **Яніне Радзевіч**. Асноўныя прэтэнзіі да іх – страты і недастатковы асартымент тавараў. У кіраўнікоў ёсць тры тыдні, каб выправіць становішча. Па выніках работы за 9 месяцаў гарвыканкам разгледзіць пытанне аб адпаведнасці іх займаемай пасадзе.

## Асартымент

27 жніўня гарвыканком выдаў распараджэнне аб гандлі таварамі вытворчасці Мінскай вобласці. У гарадскіх магазінах, перш за ўсё харчовых, павінная прысутнічаць мясцовая прадукцыя: хлеб, мяса, малако, напоі. 3 той пары гарвыканкам праверў каля двухсот праверак, і Яфім Ідэльчык зазначыў, што цяпер ў кожным харчовым магазіне ёсць маладзечанскія тавары.

Але засталіся пытанні наконт асартыменту. Не ва ўсіх магазінах дастатковая колькасць мясных ці малочных прадуктаў. Гандляры скардзіліся на мясакамбінат і гармалзавод, якія несвоечасова выконвалі заяўкі на сваю прадукцыю.

## Вытворцы

Дырэктар гармалзавода **Уладзімір Бобрык** расказаў, што гатовыя адгружаць магазінам усе сорак відаў прадукцыі, што выпускае завод, але заявак стала менш. Бо цана высокая.

Прычына – больш высокі кошт сыравіны. Калгасы Мінскай вобласці літр малака прадаюць па трэць даражэй, чым у Гродзенскай ці Брэсцкай абласцях. Цэны гэтыя фіксаваныя. Таму і канкураваць маладзечанцам з тым жа Брэсцкім малочным камбінатам цяжка. Нягледзячы на папаўненне асартыменту, рэгулярныя выстаўкі-продажы і пераход на сучасныя віды ўпакоўкі.

Старшыня гарвыканкома **Мікалай Чурсін** сказаў, што гармалзавод абавязаны вытрымліваць канкурэнцыю па якасці прадукцыі. І падцягнуць работу маркетынгавых службаў да ўзроўню канкурэнтаў, якія самі звоняць і прапануюць прадукцыю, потым прывозяць яе ў магазін і даюць адтэрміноўку ў аплаце.

Нягледзячы на недахопы, гармалзавод з'яўляецца ўзорам для мясакамбіната, дзе, па словах Мікалая Чурсіна, трэба тэрмінова наводзіць парадак. Як па асартыменце, так і па дастаўцы.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 12 верасня | 19 верасня |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1855,00 руб. | **1859,00** руб. |
| Еўра | 1810,39 руб. | **1809,18** руб. |
| Злоты | 446,53 руб. | **445,66** руб. |
| Літ | 524,34 руб. | **524,03** руб. |
| Расійскі рубель | 58,63 руб. | **58,78** руб. |

**"Вулічныя" курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1850-1870 руб. | **1850-1870** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 11.09 | 18.09 |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вялен.**, 1 кг | 11700 | **11700** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 2700 | **4900** |
| **Селядзец**, 1 кг | 2500 | **2500** |
| **Рыс**, 1 кг | 680 | **720** |
| **Грэчка**, 1 кг | 550 | **530** |
| **Цукар**, 1 кг | 820 | **815** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1200 | **1200** |
| **Алей**, 1 л | 1850 | **2000** |
| **Маянэз**, 200 г | 400 | **400** |
| **Кава "Пеле"**, 100 г | 2000 | **1900** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 600 | **620** |
| **Соус там. «Мінскі»**, 0,5 л | 650 | **700** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 550 | **450** |
| **Капуста**, 1 кг | 430 | **420** |
| **Лімоны**, 1 кг | 1600 | **1650** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 1500 | **1400** |
| **Агуркі**, 1 кг | 500 | **650** |
| **Памідоры**, 1 кг | 800 | **700** |
| **Кавуны**, 1 кг | 350 | **350** |
| **Морква**, 1 кг | 500 | **500** |
| **Дыня**, 1 кг | 1300 | **1000** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| **Малако**, 1 л | 400 | **600** |
| **Смятана**, 1 л | 2000 | **2000** |
| **Масла**, 1 кг | 4000 | **4000** |
| **Тварог**, 1 кг | 1500 | **1800** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1500 | **1400** |
| **Бульба**, 1 вядро | 2400 | **2400** |
| **Алыча**, 5-л. вядро | 1000 | **1000** |
| **Журавіны**, 5-л. вядро | 7000 | **6000** |

■ ПРАДПРЫЕМСТВЫ

# Магазін «Дзіцячы свет» мяняе свой імідж

**МАЛАДЗЕЧНА. За 7 месяцаў года магазін "Дзіцячы свет" панёс страты на 23 мільёны рублёў. Прычына – рэканструкцыя, якая даўно наспела.**

Расказвае дырэктар **Яніна Радзевіч**:

## Рэканструкцыя

– Я прыйшла на работу ў магазін леташняй зімой. На той час цэнтр гігіены і эпідэміялогіі выдаў прадпісанне аб закрыцці кафетэрыя з-за незахавання санітарных нормаў. Замена абсталявання ў кафетэрыі абышлася ў 10,6 мільёна рублёў. Акрамя гэтага ў вокнах на першым паверсе зрабілі падсвечванне, памянялі касавыя апараты, на першым паверсе замянілі асвятляльныя лямпы. Дадайце добраўпарадкаванне тэрыторыі і афарбоўку фасада.

Атрымліваецца, што гэтыя работы і зацягнулі магазін у фінансавую яму. Але і рэканструкцыя наспела – "Дзіцячы свет" павінен мець сучасны выгляд.

## Сістэма

"Дзіцячы свет" абавязаны закупляць зацверджаны Міністэрствам гандлю асартымент тавараў і абавязкова айчыннага вытворцы. І не важна, папулярны ён у спажыўцоў ці не. Прыкладам, дзіцячае айчыннае адзенне безнадзейна саступае па цане і якасці імпартнаму. А прадпрымальнікі больш свабодныя ў выбары, які тавар закупляць.

Хаця адміністрацыя магазіна таксама стараецца прасоўваць на прылаўкі больш папулярныя тавары – рынак ёсць рынак. Трыкатаж, канцылярскія тавары і абутак – тое, за чым ідуць маладзечанцы ў "Дзіцячы свет".

## Планы

Выходзіць са страт неабходна. Рэзервы – эканомія на электраэнергіі, скарачэнне транспартных выдаткаў, пошук больш танных і якасных тавараў. На другім паверсе трэба зрабіць рамонт. Каб было так, як і на першым.

**Юрый КАРПІЦКІ.**




Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Аддзел канцылярскіх тавараў у магазіне "Дзіцячы свет" – адзін з самых папулярных у пакупнікоў.**

■ СПАЖЫВЕЦКІЯ КЛОПАТЫ

# Навучэнцам – новы прадмет

**МАЛАДЗЕЧНА. З пачатку навучальнага года ў 16 сярэдніх школах горада і 17 сярэдніх школах раёна, а таксама ва ўсіх гарадскіх вучылішчах і каледжах уводзіцца новы прадмет – асновы спажывецкіх ведаў.**

Гэта звязана з тым, што 26 ліпеня ўступіў у сілу новы Закон "Аб абароне правоў спажыўцоў", дзе ўказаны арганізацыйныя, эканамічныя і прававыя асновы абароны спажыўцоў.

Каб растлумачыць настаўнікам значэнне і метады выкладання новага прадмета, быў наладжаны жнівеньскі семінар. Тут з дакладамі выступілі прадстаўнікі аховы здароўя, гандлёвых, метралагічных арганізацый. Яны азнаёмілі выкладчыкаў з прававой базай сваёй справы.

У рэспубліцы быў выдадзены падручнік для новага прадмета, тыраж якога склаў 800 экземпляраў. На горад і раён выдзелілі 110 кніг.

Новы прадмет уведзены за кошт часу, які раней "належаў" іншаму прадмету. Усяго на яго адводзіцца 32 гадзіны ў год.

**Алег ГАРУНОВІЧ.**

■ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАМ

# Каб не прапала пенсія – плаціце ўзносы

**Згодна з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб асновах дзяржаўнага страхавання", які былі прыняты 31.01.1995 г., прадугледжвалася, што дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне распаўсюджваецца на прадпрымальнікаў пры ўмове ўплаты імі страхавых узносаў.**

Прадпрымальнікі лічаць, што заробленых сродкаў дастаткова, каб забяспечыць сабе пасля наступлення пенсіённага ўзросту, а значыць, страхавыя ўзносы можна не плаціць. Каб захаваць прынцып салідарнасці пакаленняў, які прапануе ўдзел працаздольнага насельніцтва ў фарміраванні сродкаў фонду сацыяльнай абароны насельніцтва, неабходных для фінансавання пенсій і дапамог. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь 25.07.2002 г. падпісаў Дэкрэт "Аб некаторых пытаннях сацыяльнай абароны грамадзян", які ўступіў у сілу з 1 жніўня 2002 года.

Пунктам №2 названага дэкрэта ўстаноўлена для індывідуальных прадпрымальнікаў абавязковае дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне, а таксама вызначаны мінімальны памер абавязковых страхавых узносаў.

Прадпрымальнікі абавязаны зарэгістравацца ў якасці плацельшчыкаў абавязковых страхавых узносаў у 15-дзённы тэрмін з дня выдачы пасведчання аб дзяржаўнай рэгістрацыі. Прадпрымальнікі, зарэгістраваныя ў органах дзяржаўнай рэгістрацыі па стану на 31.07.2002 г., патрэбную суму за жнівень павінныя былі пералічыць не пазней 15 верасня.

У адпаведнасці з пунктам 8 Палажэння аб уплаце абавязковых страхавых узносаў і іншых плацяжоў у фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, зацверджаным Указам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5.06.2002 г. за №318, і пунктам 2 арт. 2 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб памерах абавязковых страхавых узносаў у фонд сацыяльнай абароны насельніцтва" ўсе індывідуальныя прадпрымальнікі абавязаны штомесячна плаціць страхавыя ўзносы ў памеры 15% ад даходу, які вызначаецца самастойна. Пры гэтым мінімальны памер страхавых узносаў павінны быць не менш сумы, адлічанай у памеры 36% ад велічыні бюджэтнага пражытачнага мінімуму. Уплата страхавых узносаў праводзіцца не пазней 15 чысла месяца, што ідзе за месяцам, за які павінныя быць заплачаны абавязковыя страхавыя ўзносы. За несвоечасовае пералічэнне страхавых узносаў у фонд на суму нядоімкі за кожны дзень пратэрміноўкі (уключаецца і дзень аплаты) налічваецца пеня ў памеры 0,2%.

Па стану на 1 жніўня 2002 года ў інспекцыі па падатках і зборах стаіць на ўліку індывідуальных прадпрымальнікаў без дадзеных на ліквідацыю ў Маладзечне 2836 чалавек, а прайшлі рэгістрацыю ў фондзе сацыяльнай абароны па стану на 16.09.2002 г. 844 чалавекі. Варта памятаць, што згодна з артыкулам 155[10] Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях прадугледжаны штраф за парушэнне тэрмінаў рэгістрацыі ў якасці плацельшчыкаў страхавых узносаў.

Прадпрымальнікі, якія не прайшлі рэгістрацыю, павінныя тэрмінова прыбыць у аддзелы фонду сацыяльнай абароны насельніцтва для рэгістрацыі па адрасу: г.Маладзечна, вул.Галіцкага, 8 ці ў іншыя фонды па месцы жыхарства. Пры сабе мець пашпарт, пасведчанне прадпрымальніка, дублікат паведамлення аб прысваенні індывідуальнага прадпрымальніка.

**Барыс КАРПІЕВІЧ, начальнік Маладзечанскага гараддзела фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.**

■ ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

# Цэны за месца на «птушыным» рынку

**МАЛАДЗЕЧНА. Чытачка з Маладзечанскага раёна звярнулася ў рэдакцыю, каб даведацца, колькі трэба плаціць за гандлёвае месца на "птушыным" рынку.**

У адміністрацыі рынку райспажыўтаварыства адказалі, што існуе тры віды аплаты: гандаль з грузавой машыны, з легкавой і з зямлі. У апошнім выпадку аплата бярэцца за галаву свойскай жывёлы асобна. Цэны мяняюцца кожны месяц. У верасні адпаведна бралі 5715 рублёў, 3755 рублёў і па 2420 рублёў.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ СУВЯЗІ

# Пяць гадоў дружбы

**МАЛАДЗЕЧНА. Пяты год супрацоўнічаюць паміж сабой СШ №5 і гімназія з нямецкага горада Гёцінген.**

У пачатку верасня ў Маладзечна прыехала нямецкая дэлегацыя. А ў аўторак дзесяцікласніца СШ №5 **Каця Северына** даведалася, што наступны навучальны год яна правядзе ў Германіі.

Супрацоўніцтва паміж навучальнымі ўстановамі пачалося дзякуючы настаўніку пятай школы **Аляксандру Кругламу**, які тры гады таму пайшоў з жыцця. Пяць гадоў таму ў Маладзечанскую раённую бальніцу прыехалі муж і жонка Свенсаны, якія прывезлі ў падарунак медыцынскае абсталяванне. Перакладчыкам у нямецкай дэлегацыі і быў Круглы, які запрасіў немцаў да сябе ў школу.

З таго часу немцы і беларусы абменьваюцца дэлегацыямі. Акрамя гэтага штогод адзін вучань дзесятага класа едзе на год вучыцца ў нямецкую гімназію. Фінансава яго падтрымлівае нямецкі дабрачынны фонд Роберта Боша, які аплачвае дарогу і кожны месяц выдае стыпендыю.

Першыя тры вучні, што з'ездзілі ў Германію, звязалі свой лёс з нямецкай мовай. На наступны год пасля прыезду ўсе займалі прызавыя месцы на рэспубліканскіх алімпіядах па нямецкай мове і без экзаменаў паступалі ў лінгвістычныя універсітэт.

Сёлета ў Германію паехаў **Юрый Казлоўскі**, а вярнулася адтуль **Юля Бобрык**.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Выцягнула шчаслівы білет

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак дзесяцікласніца Каця Северына даведалася, што наступнай восенню на год паедзе вучыцца ў Германію.**

Лаўрэатка з'яўляецца добрай знаёмай нашай газеты і яе пастаянным чытачом. Каця двойчы перамагала ў нашым конкурсе для кемлівых "Паварушы мазгамі".



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Вучаніца дзесятага класа Маладзечанскай СШ №5 Каця Северына ў наступным годзе будзе вучыцца ў нямецкай гімназіі.**

## Шчаслівы шок

– Калі даведалася, што перамагла, то ў мяне наступіў шок. У добрым сэнсэ. Хацелася б паехаць у складзе дэлегацыі нашай школы хаця б на тыдзень, а атрымалася — на цэлы год.

**– Ты гаварыла з вучнямі, што раней былі ў Германіі? Да чаго трэба рыхтавацца?**

– Цяжка адаптавацца, калі ўсе гавораць не на роднай для цябе мове. Па-другое, адчуваю адказнасць. Бо там я буду адзінай беларускай і па маіх паводзінах у немцаў складзецца ўражанне аб усіх беларускіх школьніках.

Цікава будзе пазнаёміцца са звычкамі і традыцыямі немцаў. Мне падабаецца нямецкая мова. Дзевяць класаў я скончыла на "выдатна". На летніх канікулах была дома. Рабіць асабліва было няма чаго, і я занялася мовай. І вырашыла, што звяжу лёс з нямецкай мовай. Хаця мне добра даецца матэматыка, але па слядах маці – у эканамічную ВНУ – не пайду.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ АДУКАЦЫЯ

# Успаміны аб вучобе ў Германіі

**МАЛАДЗЕЧНА. Мінулы навучальны год адзінаццацікласніца Юля Бобрык правяла ў Германіі. Там яна вучылася ў 11-м класе гімназіі ў горадзе Гёцінген.**

Гэты горад па насельніцтву крыху большы за Маладзечна. Гёцінген – буйны адукацыйны цэнтр. У горадзе знаходзіцца знакаміты ў Германіі універсітэт.




Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Адзінаццацікласніца Маладзечанскай СШ №5 Юля Бобрык за мінулы год павучылася ў нямецкай гімназіі, вывучыла іспанскую мову і пабывала ў Францыі і Польшчы.**

## Адукацыя

– Я вучылася ў 11-м класе нямецкай гімназіі, – расказвае Юля. – Там навучаюцца вучні з сёмага па трынаццаты клас. Туды паступаюць пасля заканчэння пачатковай школы. Па свайму статусу гімназія – нешта сярэдняе паміж звычайнай школай і універсітэтам. Гімназія ў Гёцінгене спецыялізуецца на вывучэнні замежных моў. У 11-м класе вывучаюць тры замежныя мовы. Англійскую і французскую выбіраюць амаль усе. Пры жаданні трэцяй можна абраць і рускую мову.

Веды ацэньваюцца па 15-бальнай сістэме. Вучэбны год падзелены на два паўгоддзі, але канікулы такія, як у Беларусі, – восеньскія, зімовыя і вясеннія. У класе вучыліся мае равеснікі. Але былі і старэйшыя, якія раней заставаліся на другі год. Гэта не такая і рэдкая з'ява ў Германіі. Прытым адносіны да другагоднікаў там іншыя. Вучні застаюцца на паўторны курс па ўласнай ініцыятыве, калі бачаць, што не засвоілі вучэбны матэрыял. І нічога жудаснага ў гэтым няма. Для немцаў гэта не ганьба.

## Менталітэт

Немцы вядуць сябе больш раскавана. Захацелася пасяродзь урока паесці – калі ласка. Выйсці – таксама. Калі вучань у нечым не згаджаецца з настаўнікам, то адразу гаворыць яму аб гэтым. На пераменцы вучань можа выйсці на калідор і сесці на падлогу, калі так яму захочацца. Да адзення патрабаванні не такія, як у нас.

Нягледзячы на тое, што нямецкія сем'і жывуць заможна па нашых мерках, кожны вучань у класе падзарабляў, каб мець кішэнныя грошы. Хаця грошы штомесяц даюць і бацькі. Але гэта малыя сумы – у сярэднім 15 еўра.

З юнага ўзросту немцаў прывучаюць да пунктуальнасці. Толькі паспрабуй спазніцца на сустрэчу хаця б на 5 хвілін!..

## Побыт

Я жыла ў дзвюх сем'ях. Першае паўгоддзе – у сям'і Хервіга і Сільвіі Шродэраў – аднафамільцаў цяперашняга канцлера Германіі Герхарда Шродэра. Гэтае прозвішча часта сустракаецца ў Германіі. Другое паўгоддзе – у Бернарда і Ангелікі Кнаўэраў. У абедзвюх сем'ях муж і жонка – настаўнікі. (Як у нас бы назвалі – бюджэтнікі. Параўнайце ўмовы жыцця! – аўт.). Жывуць сем'і прыкладна ў аднолькавых умовах. Кожная – у трохпавярховым доме з усімі выгодамі. Першая сям'я мае тры дзіцяці, другая – чатыры. Хобі – турызм.

Сільвія Шродэр родам з Францыі. Падчас восеньскіх канікулаў сям'я Шродэраў паехала на два тыдні да сваякоў Сільвіі. Узялі і мяне. Пабачыла Парыж, Эйфелеву вежу, Елісейскія палі.

## Вольны час

На канікулах немцы сям'ёй любяць паехаць за мяжу ці проста на прыроду. Зімой часцяком катаюцца на лыжах. Адносіны да прыроды там больш чулыя. Калі едуць на пікнік, то пасля сябе ўсё чыста прыбяруць. Кожны стараецца каля дома зрабіць невялічкі сад, куды можна летам выйсці на прагулку ці проста кавы выпіць (бульбу на сваіх шасці сотках не садзяць – аўт.). Калі бываюць у лесе, то не збіраюць грыбы. Проста не ведаюць, якія можна збіраць, якія – не. Лепш купіць у магазіне. А калі і рызыкнуць сабраць, то адразу нясуць правяраць, ці не назбіралі ядавітых.

Усе падлеткі займаюцца спортам. Дзяўчаты пагалоўна ходзяць у фітнес-цэнтры. Але не абмінаюць і бары. Дыскатэк у Гёцінгене некалькі. Ды і ўваход дазволены туды пасля 18 гадоў. Таму мае равеснікі, калі прыязджаюць сюды, прыемна здзіўляюцца, што ў Маладзечне ёсць дыскатэкі для 16-гадовых. Нашы дыскаклубы – любімае месца адпачынку для нямецкіх падлеткаў.

## Здароўе

Многа ў Германіі вегетарыянцаў. Вараную агародніну ела там кожны дзень. А супы, наадварот, рэдкасць. Ды і то яны нагадваюць пюрэ. Немцы стараюцца ўжываць прадукты, якія вырашчаны без ўжывання хімічных угнаенняў – клапоцяцца аб здароўі. Нягледзячы на тое, што такія прадукты даражэйшыя за звычайныя.

Хаця многія гімназісты кураць. І не хаваюцца. У гімназіі ёсць спецыяльныя месцы для курэння. І выкладчыкі не ўмешваюцца. Лічыцца, што курыць ці не курыць – гэта асабістая справа кожнага. Хаця ад бацькоў падлеткі ўсё ж такі хаваюцца, бо тыя за курэнне не пахваляць.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Спяшайцеся падпісацца




**Каб не застацца без "Рэгіянальнай газеты", лепшы спосаб – падпісацца на яе. Цана індывідуальнай падпіскі на 1 месяц – 1704 рублі, для арганізацый – 5595 рублёў. На тры месяцы – адпаведна 5112 і 16785 рублёў.**

**"Рэгіянальная газета".**

■ ЛІСТ З АМЕРЫКІ

# На першым месцы

Добры дзень! Адрас вашай газеты знаходзіцца ў мяне ў камп'ютэры ў Favorites/Media на першым месцы, таму што восем самых цяжкіх і самых цікавых гадоў я жыў і працаваў у Маладзечне. Вельмі шкада, што абнаўленні вашай газеты ў Інтэрнэце бываюць толькі раз у некалькі тыдняў. Яшчэ хацелася б сустрэць у вашай газеце больш інфармацыі пра музычнае жыццё рэгіёна. Дарэчы, канцэртная зала Маладзечанскага вучылішча – гэта яшчэ і зала камернай музыкі Белдзяржфілармоніі, дзе амаль кожны дзень праходзяць цікавыя канцэрты, а дапамагаць у асвятленні гэтых канцэртаў на старонках газеты маглі б навучэнцы і выкладчыкі тэарэтычнага аддзялення музычнага вучылішча.

Поспехаў вам!

**Андрэй СПІЧАК, Bellevue, WA.USA.**

**Ад рэдакцыі.** На самой справе абнаўленні на нашым сайце **regionnews@promedia.by** адбываюцца штотыдзень. Былі перапынкі па тэхнічных прычынах і з-за адпускнога часу. Заўвагі нашага амерыканскага чытача абавязкова ўлічым.

■ СУСТРЭЧЫ

# Экскурсія ў рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты»

**МАЛАДЗЕЧНА. 17 верасня ў рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" на экскурсію завіталі вучні 8-9-х класаў Маладзечанскай СШ №11, якія займаюцца на факультатыўных курсах юнага журналіста.**

Школьнікі разам з настаўнікам **Аляксандрам Давідовічам** азнаёміліся са структурай рэдакцыі, тэхналогіяй выпуску газеты, асаблівасцямі журналісцкай працы.

Аляксандр Давідовіч расказаў, што ў планах факультатыва – выпуск насценнай школьнай газеты "Перапынак" на беларускай мове. У гэтай школе першы навучальны тыдзень праходзіў пад знакам свята беларускага пісьменства. Акрамя гэтага дамовіліся аб супрацоўніцтве школьнікаў з "Рэгіянальнай газетай".

На развітанне юныя журналісты сфатаграфаваліся каля рэдакцыі "РГ". Наша сустрэча была не апошняй.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**




Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Слухачы факультатыўных курсаў юных журналістаў сфатаграфаваліся на памяць пасля заканчэння экскурсіі ў рэдакцыі "РГ".**

